МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ "ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

№4 (144)
красавік 2014

# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## У НУМАРЫ:



ПАДЗЕІ

## ТАВАРЫСТВУ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ЛІТВЕ 25 ГАДОЎ!

У суботу, 5 красавіка, адна з найстарэйшых беларускіх арганізацый Літвы найноўшага часу – Таварыства беларускай культуры – адзначыла 25-годдзе сваёй дзейнасці. Ля вытокаў стаялі Хведар Нюнька, Лявон і Юрка Луцкевічы, Зоська Верас, Кастусь і Леакадыя Шышэі, Лявон Кароль, Мікола Рулінскі, Аляксей Анішчык і інш. Яны былі першымі пасля амаль 50-гадовага забыцця, хто ўзяўся за адраджэнне беларускасці ў гэтым краі.

ёсць беларусы і што і іх гісторыя цесна звязаная з гэтай краінай.

Аб жыццядзейнасці любой арганізацыі сведчыць зробленая ёй справа. Таварыства за свае 25 гадоў не толькі засведчыла аб беларускай прысутнасці ў Вільні і Літве, але і замацавала ў ёй беларускія сляды. Дзякуючы намаганням Таварыства ў літоўскай сталіцы працуе беларуская гімназія, у Літоўскім эдукалагічным універсітэце ёсць беларускі цэнтр. Можна сказаць,



Устаноўчы сход адбыўся 4 лютага 1989 г., на які сабралася больш за 200 чалавек, таксама былі прадстаўнікі і з Беларусі, галоўным чынам, з Мінска. Пасля яго арганізацыю зарэгістравалі пры фондзе культуры Літвы, які ўзначальваў Чэслаў Кудаба. Старшынёй ТБК быў абраны Хведар Нюнька, які застаецца на гэтай пасадзе і зараз. З таго часу і пачаўся адлік новага беларускага жыцця ў Літоўскай Рэспубліцы.

Створаная арганізацыя заўжды стаяла на пазіцыі захавання беларускай культуры як у Літоўскай Рэспубліцы, так і ва ўсім свеце. Можна без перабольшвання сказаць, што менавіта дзякуючы Таварыству ў Літве ведаюць, што

што дзякуючы стараннем арганізацыі, у Літве можна набыць сярэднюю і вышэйшую адукацыю на беларускай мове. Гэта адна з найбольшых заслугаў Таварыства.

Дзякуючы стараннем ТБК у Вільні ўсталяваны помнікі на магілах беларускіх дзеячаў і мемарыяльныя дошкі Францішку Скарыну, Кастусю Каліноўскаму, Браніславу Тарашкевічу, Рыгору Шырму, Янку Купалу, Вацлаву Ластоўскаму, Пятру Сергіевічу, Наталлі Арсенневай, Максіму Гарэцкаму, Адаму Станкевічу...

Дзякуючы стараннем і намаганням ТБК на Лукішскім пляцы захава-

*Працяг на стар. 2*

# ТАВАРЫСТВУ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ЛІТВЕ 25 ГАДОЎ!

*Працяг. Пачатак на 1-й старонцы.*

нае месца, на якім царскія акупанты пазбавілі жыцця нашага героя Кастуся Каліноўскага. Важным таксама з'яўляецца тое, што намаганнямі ТБК у Вільні некалькі вуліц названы імёнамі вядомых беларускіх дзеячаў.

ТБК правяло пяць канферэнцый беларусаў Балтыі, брала ўдзел ва ўсіх з'ездах беларусаў свету. Мае вельмі цесныя кантакты з беларускімі дыяспарамі як блізкага, так і далёкага замежжа.

Традыцыйна арганізацыя штогод адзначае самыя вялікія нацыянальныя святы: Дзень абвяшчэння БНР 25 сакавіка і Дзень Герояў (Слуцкі збройны чын). Традыцыяй ужо стала штогод 22 сакавіка ладзіць шэсце памяці Кастуся Каліноўскага. У апошнім шэсці ўзяло ўдзел больш за 200 чалавек.

Таварыства падтрымлівае самыя цесныя кантакты з кіраўніцтвам Літоўскай Рэспублікі. Напрыклад, 26 сакавіка 2008 г. сябры ТБК былі запрошаны на сустрэчу з прэзідэнтам Літоўскай Рэспублікі і атрымалі віншаванні з нагоды 90-годдзя абвяшчэння БНР. Частымі гасцямі бываюць Вітаўтас Ландсбергіс, Андрус Кубілюс, Эмануэліс Зінгерыс і іншыя выдатныя палітыкі Літвы.

Не менш цесныя і цёплыя кантакты Таварыства падтрымлівае і з беларускімі дзеячамі этнічнай бацькаўшчыны. Відаць, цяжка знайсці імя выдатнага беларускага дзеяча, які не быў бы ў Таварыстве.

На святочную імпрэзу сабралася шмат беларусаў-віленчукоў, а таксама прыехалі госці з Беларусі. Свой срэбны юбілей Таварыства адзначыла ва ўрачыстай абстаноўцы. Таксама ў гэты дзень старшыня ТБК Хведар Нюнька адзначаў сваё 86-годдзе. Павіншаваць шаноўнага спадара Хведара прыехалі Алена Макоўская, Ніна Шыдлоўская, Барыс Пятровіч, Алесь Пашкевіч, Міхась Скобла, Уладзімір Хільмановіч, Вольга Мікалайчык і інш. У сваіх прамовах яны адзначылі важнасць дзейнасці Таварыства не толькі для беларусаў Літвы, але і для самой метраполіі, падзякавалі сп. Хведару за яго актыўную жыццёвую пазіцыю і за жыццё, прысвечанае захаванню і распаўсюду беларускасці ў Літве. Таксама перадалі віншаванні ад Радзіма Гарэцкага і інш. З літоўскага боку павіншаваць прыйшоў вядомы праваабаронца Стасіс Каўшыніс, адзначыўшы важнасць супрацоўніцтва Таварыства з літоўскім бокам.



*Ніна Шыдлоўская і Алена Макоўская віншуюць ТБК Літвы ад імя Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына"*

Сябры Таварыства, віншуючы спадара Хведара, падзяліліся ўспамінамі, узгадалі пра працу ў Таварыстве. Таксама многія выказвалі занепакоенасць сітуацыяй у Беларусі і выказалі гонар за Украіну, якая сёння здабывае свабоду і становіцца вольнай дэмакратычнай дзяржавай. Амаль ва ўсіх выступоўцаў гучаў спадзеў на тое, што і Беларусь у хуткім часе здабудзе сабе незалежнасць.

Галоўная значнасць працы Таварыства – захаванне беларускасці. І гэта важна перадусім для самой Беларусі, якая ў чарговы раз апынулася пад маскоўскай зневажальнай акупацыяй. Але тое, што беларусы перажылі 200 гадоў вынішчэння, прыніжэння, сведчыць, што знішчыць іх немагчыма. Нараджаюцца ўсё новыя і новыя пакаленні беларусаў, якія ведаюць, хто яны, адкуль, якія іх карані і мова. І акупанту гэты працэс не спыніць. На жаль, усходні агрэсар замест таго, каб стаць беларусам сябрам і партнёрам, вырашыў пайсці ў адваротным кірунку, не разумеючы, што гэта толькі загартоўвае дух беларусаў. І калі нацыя адродзіцца, гэта будзе нагадваць узурпатару, і зразумела, шчырых адносінаў не будзе, выключна па віне Расіі.

Час ідзе. Таварыства перакрочыла свой першы юбілей (срэбны). Наперадзе – чарговая праца па захаванні беларускасці і беларускіх слядоў як у нашым Вечным Горадзе, так і на этнічнай бацькаўшчыне.

*Д-р Алесь Адамковіч, Літва*

# "КУЛЬТУРА ЯДНАЕ НАРОДЫ"

12 красавіка 2014 г. Саюз беларусаў Латвіі сумесна з Кансультатыўным міжэтнічным саветам пры Упаўнаважаным па справах рэлігій і нацыянальнасцяў Рэспублікі Беларусь правёў канферэнцыю-дыскусію "Культура яднае народы" і святочны канцэрт.

Мерапрыемства было арганізавана з ініцыятывы апарата Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцяў Рэспублікі Беларусь з мэтай актывізацыі супрацоўніцтва з грамадскімі арганізацыямі беларусаў замежжа і пашырэння міжэтнічнага дыялогу Латвіі і Беларусі.

З беларускага боку ўдзельнікаў канферэнцыі павітала Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Рэспублікі Беларусь у Латвійскай Рэспубліцы Марына Іванаўна Даўгаполава, якая адзначыла, што такія мерапрыемствы ўжо прайшлі ў Польшчы, Украіне, Літве пры актыўнай падтрымцы беларускіх дыяспар гэтых краін, і цяпер такая сустрэча адбываецца на гасціннай латвійскай зямлі. Таксама яна адзначыла неабходнасць далейшага супрацоўніцтва і працягу культурнага дыялогу паміж непасрэднымі ўдзельнікамі гэтага працэсу.

Адбыўся абмен досведам у дзейнасці грамадскіх арганізацый нацыянальных меншасцяў, былі закранутыя механізмы іх супрацоўніцтва з дзяржаўнымі структурамі і органамі самакіравання. Былі выказаныя цікавыя меркаванні з нагоды ўключэння ў дзейнасць культурных нацыянальных арганізацый мерапрыемстваў адукацыйнага і дабрачыннага характару, а таксама адзначаная неабходнасць накіроўваць высілкі на прыцягненне моладзі да вывучэння сваёй нацыянальнай культуры.

Напрыканцы канферэнцыі было падпісанае Пагадненне і Праграма супрацоўніцтва паміж Кансультатыўным саветам пры Упаўнаважаным па справах рэлігій і нацыянальнасцяў Рэспублікі Беларусь і Саюзам беларусаў Латвіі.

*Паводле belorus.lv*

## У ЦЭНТРЫ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ ДАЎГАЎПІЛСА АДКРЫЛАСЯ НАРОДНАЯ БІБЛІЯТЭКА

9 красавіка 2014 года ў Цэнтры беларускай культуры г. Даўгаўпілса была ўрачыста адкрытая народная беларуская бібліятэка.

Для ЦБК і культурна-асветніцкага таварыства "Уздым" адкрыццё народнай беларускай бібліятэкі стала выдатнай падзеяй. Бібліятэка збіралася многа гадоў па народным прынцыпе – з міру па нітцы. Кнігі прыносілі беларусы, іх прывозілі ў падарунак госці, дарылі паэты і пісьменнікі. Так на кніжных паліцах набралася некалькі соцень тамоў, і тады пачалася праца па афармленні бібліятэкі. У гэтым Беларускаму дому вялікую дапамогу сваімі парадамі аказалі спецыялісты Латгальскай цэнтральнай бібліятэкі. А работу сістэматызацыі бібліятэкі і яе афармленне з энтузіязмам выканала Тэрэза Паўлава, сябра таварыства "Уздым" і прафесійны бібліятэкар. Аб гэтым у прывітальным слове сказала кіраўнік ЦБК Жанна Раманоўская. Перспектывай развіцця беларускай бібліятэкі спецыялісты назвалі яе падключэнне да электроннага каталога Латгальскай цэнтральнай бібліятэкі.

У Беларускім доме шмат гадоў дзейнічае беларуская нядзельная школа "Вясёлка". Без бібліятэкі школу ўявіць цяжка. Настаўніца, сустаршыня беларускага культурна-асветніцкага таварыства "Уздым" Вольга Паўловіч падаравала бібліятэцы кнігі, а таксама адзначыла, што гэтая падзея ёсць прадаўжэннем традыцыі, бо да вайны ў Даўгаўпілсе дзейнічалі дзве беларускія бібліятэкі.

*Паводле Жанны Раманоўскай і Вольгі Паўловіч*

## ДБАЕШ ПРА СВАЁ – СТАРТУЙ РАЗАМ З AD.NAK!




22 красавіка стартаваў Пяты, юбілейны, Фестываль беларускамоўнай рэкламы і камунікацыі AD.NAK!, які распачаўся прэс-канферэнцыяй, дзе ўзялі ўдзел Ніна Шыдлоўская (каардынатар ГКК "Будзьма беларусамі!"), Сяргей Скараход (кіраўнік праекта Marketing.by), Вольга Алейнік (кіраўнік Агенцтва візуальных камунікацый AVC), Зміцер Курловіч (начальнік аддзела кіравання брэндам кампаніі velcom), Аляксандр Дзешкавец (кіраўнік кампаніі Universal Press).

Фестываль традыцыйна будзе прадстаўлены ў новай канцэпцыі, а менавіта: Думай глабальна – дзейнічай лакальна! Карыстаючыся гэтым трэндавым лозунгам, фестываль AD.NAK! сёлета абвяшчае: "Трэба так! Дбай пра сваё – не прагадаеш!"

Генеральным партнёрам фестывалю сёлета выступіла кампанія velcom. Дзякуючы такой падтрымцы пераможцы намінацый і конкурсаў Фестывалю атрымаюць каштоўныя прызы.

Як заўсёды, арґкамітэт фестывалю AD.NAK! робіць акцэнт на прыцягненні да ўдзелу перш за ўсё маладых талентаў, для якіх у пачатку прафесійнага шляху вельмі важная практычная рэалізаванасць сваіх працаў. Таму ўдзельнікам прапанаваная багатая і разнастайная конкурсная праграма, дзе канкурсанты змогуць паказаць свае прафесійныя здольнасці ў стварэнні рэкламы розных фарматаў – білборды і постары, інфаграфіка, аўдыёрэклама, сувенірная прадукцыя, а таксама стварэнне айдэнтыкі брэндаў і гандлёвых марак.

Прыём працаў да ўдзелу ў намінацыях і конкурсах пятага фестывалю AD.NAK! распачынаецца 22 красавіка. Дэдлайн прыёму работ прызначаны на 9 чэрвеня. А фінальная частка фестывалю – урачыстая цырымонія ўзнагароджання пераможцаў з папярэдняй адметнай адукацыйнай праграмай – пройдзе 27 чэрвеня ў Мінску.

Сёлетні фестываль AD.NAK! будзе прасякнуты ідэяй высокай каштоўнасці мясцовай камунікацыйнай глебы, якую можна развіць пры дапамозе новых сучасных фарматаў – воркшопаў і інтэнсіваў. Сёлета арганізатары вырашылі правесці некалькі 2-дзённых воркшопаў, у межах якіх удзельнікі здолеюць стварыць і паказаць больш якасныя і арыгінальныя ідэі. Адукацыйна-практычныя мерапрыемствы пройдуць напрыканцы траўня – у пачатку чэрвеня пад куратарствам вядомых спецыялістаў рэкламна-камунікацыйнага рынку, пасля якіх удзельнікі будуць абараняць перад найбольш дасведчанымі беларускімі рэкламістамі свае працы. Найбольш старанныя аўтары і стануць пераможцамі сёлетніх конкурсаў.

Па дадатковую інфармацыю звяртайцеся па тэлефонах +375 29 177-0121, 29 755-1434, а таксама праз электронную пошту adnak@budzma.org.

*Паводле budzma.by*

ВІНШАВАННІ

## ВІНШАВАННЕ СЯБРАЎ ВЯЛІКАЙ РАДЫ

Маем гонар павіншаваць з Днём нараджэння сябраў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", якія нарадзіліся ў траўні: **Юрася Беленькага, Аляксея Караля, Паўла Мажэйку, Барыса Стука** (Беларусь), **Лёлю Міхалюк** (Англія), **Лілію Плыгаўку** (Літва).

Зычым вам моцы і імпэту, цікавых, прыемных і незабыўных падзеяў у жыцці, а таксама спраўджвання вашых мараў і спадзяванняў!

22 траўня 55-годдзе адзначае сябра Вялікай Рады Згуртавання **Мікола Яцкоў** (Беларусь). Віншуем ад усяго сэрца шаноўнага юбіляра! Жадаем натхнення і плёну ў творчасці, новых, радасных жыццёвых адкрыццяў і аптымізму!

*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*



# ЗІНАІДА КЛЫГА: “БЕЛАРУСАЎ У ЭСТОНІІ ПАВАЖАЮЦЬ”

Зінаіда Клыга — старшыня Таварыства беларускай культуры Іда-Вірумаа “БЭЗ” — была адной з пачынальніц беларускага згуртавання ў Эстоніі. Напярэдадні святкавання 25-годдзя арганізацыі ўдалося спаткацца і пагутарыць пра мінулае і сучаснасць беларусаў у мястэчку Йыхві і ў згаданай балтыйскай краіне цалкам. Вытрымкі з гэтага інтэрв’ю прыводзім тут.

### Пачаткі беларускага жыцця ў Эстоніі

**Наталля Гардзіенка:** Як паўстала ідэя стварэння Беларуска-Эстонскага Згуртавання?

**Зінаіда Клыга:** У той час у Эстоніі пачаліся размовы пра нацыянальнасць, незалежнасць, што ёсць тытульная нацыя, а ёсць рускамоўныя, нібыта ўсе аднолькавыя. Было непрыемна. І спачатку тут яшчэ было ціха, а ў Таліне ўжо пачалі варушыцца нашыя нацыянальныя групы і быў такі пачынальнік — спадар Чыжык. Што ён на самай справе зрабіў? Я ведаю, што ён газету, кніжкі выдаваў і потым неяк згубіўся, не ведаю яго лёсу. Той спадар Чыжык пачаў гуртаваць талінскіх беларусаў, кагосьці запрашаць з Беларусі. А ў нас тут вельмі таленавіты беларус быў, Уладзімір Дзехцярук, ён першы пра гэта даведаўся. Ён ведаў, што я беларуска, што Маргарыта Астравумава беларуска, і сказаў неяк: “У Таліне робяць нейкую сустрэчу, давайце з’ездзім ды паглядзім, што яны робяць”. І мы паехалі. А калі ўжо вярталіся з Таліна пасля гэтае сустрэчы, мы гаварылі, што трэба кінуць кліч нашым беларусам, тут жа іх так многа. Тое было недзе ў студзені 1989 г., а ўжо 6-га ці 8-га сакавіка мы зарэгістраваліся. Народу было па першым часе даволі многа, каля 50 асобаў інтарэс выявілі, а потым, як заўсёды, засталіся найбольш актыўныя. Ёсць ядро актыўных людзей, якія цягам гэтых 25 гадоў дзейнічаюць у арганізацыі. Тая ж Маргарыта Астравумава.

### Шлях да мовы

**З. К.:** Калі я прыехала ў Мінск у 1965 г., прыйшла на аддзяленне рускамоўнае. У нас была беларуская мова, але яна была фактычна як замежная. Мне давялося перавесціся з начфаку з Таліна, дзе я пачынала, на “літ-муз” і здаваць шмат прадметаў, і сярод іх беларуская літаратура розных перыядаў. І мне было неяк сорамна, няёмка размаўляць па-беларуску. Потым я пазнаёмілася з Васілём Сёмухам. А ён размаўляў толькі на беларускай мове. Мы пасябравалі. Я размаўляла па-руску, ён па-беларуску. Калі я прызналася яму, што саромеюся на занятках гаварыць на беларускай мове, бо мне няёмка, нібыта я ламаю рускую, Васіль мне без падрыхтоўкі зрабіў такую лекцыю па параўнаўчым мовазнаўстве! Расказваў пра тое, наколькі багатая беларуская мова, і даказваў, даваў нямецкія словы, шукаў у славянскіх мовах адпаведнікі, паказваў, колькі ёсць недарэчнасцяў у рускай мове. Столькі тады расказаў, што я была ўражаная.

Канечне, я скончыла інстытут, забыла беларускую мову, калі вярнулася сюды ў Эстонію. Жыццё, дзеці, праца... І толькі ў 1989 г., калі мы пачалі гуртавацца, мне спатрэбілася беларуская мова. Мы ездзілі ў Беларусь, і першы раз я была проста знішчаная тым, што, калі быў Першы з’езд беларусаў і прыехалі людзі з усяго свету, замежныя беларусы размаўлялі па-беларуску. А я не магла. Мне было так сорамна.

Перад другім з’ездам беларусаў свету мы паехалі на сустрэчу з Краўчанкам, ён быў міністрам замежных спраў. На сустрэчы ў міністэрстве папрасіла прабачэння, што буду размаўляць па-руску, бо мовы добра не ведаю. Гэтая сустрэча была ў траўні, а ў ліпені быў з’езд. І калі я паехала ўжо туды, то падрыхтавалася на беларускай мове. На тым з’ездзе я рабіла прамову, і раптам Краўчанка з прэзідыума кажа: “Людцы добрыя, што ж гэта робіцца? Месяц назад яна двух словаў не магла на беларускай мове звязаць, а цяпер глядзіце, як размаўляе!” Ад таго часу я і карыстаюся беларускай мовай: і размаўляю, і пішу, і на радыё матэрыялы рабіла. Я ведаю, што раблю памылкі, калі размаўляю, але я ўжо не баюся. Нават калі бываю ў Беларусі, гавару толькі на беларускай, з прынцыпу.




*Зінаіда Клыга выступае на Шостым з'ездзе беларусаў свету*

### Беларуска-Эстонскае Згуртаванне сёння

**Н. Г.:** Калі казаць пра вобраз сярэдняга беларуса, які з’яўляецца сябрам арганізацыі, то гэта хто?

**З. К.:** Гэта сталы чалавек, жанчына пасля 50 гадоў. З моладдзю цяпер дрэнна, і гэта вялікая праблема. Калі мы пачыналі, майму хлопчыку меншаму было тры гады. І для дзяцей, якія падрасталі, у нас была школка, і што маглі, мы рабілі. Але яны выраслі, а ўнукаў яшчэ мала. Да таго ж, быў такі складаны час, калі для моладзі тут, у Эстоніі, не было працы, і скончыўшы школу, яны з’язджалі. Але цяпер я адчуваю, што павінны прыйсці маладыя мамы з дзеткамі. На жаль, нам не хапае сродкаў і магчымасцяў зацікавіць моладзь. У нас нічога няма апроч таго, што старыя цёткі спяваюць нейкія песні. Дзецям гэта нецікава. Яны не адчуваюць сябе беларусамі на гэтым фоне. Яны ведаюць, што яны беларусы, але на гэтым — усё.

**Н. Г.:** А якія адносіны ў БЭЗу з іншымі беларускімі арганізацыямі ў Эстоніі і за яе межамі?

**З. К.:** Раней у нас больш было сувязяў, і з замежнымі арганізацыямі таксама. Але цяпер гэта абмежавалася, усё праз грошы. Калі пачыналася, то былі толькі мы тут. Быў толькі БЭЗ, ён таму і называецца Таварыствам беларускай культуры Іда-Вірумаа, цэлага павета. І беларусы адусюль імкнуліся да нас, мы супрацоўнічалі з консульствам, дапамагалі рабіць пашпарты, грамадзянства, візы, ездзілі ў Талін. Людзі глядзелі, што мы працуем, і самі пачалі арганізоўвацца. У Нарве было створана згуртаванне на чале з Таццянай Цыганок. Яно хутка сышло на ніштто, але за ім паўстала суполка “Сябры”, якая ад нас брала і статут. Пазней, у 1994 г., з’явілася гэтак званая Асацыяцыя беларусаў Эстоніі “Бацькаўшчына” на чале з Савінавай. Мы працуем самастойна ад яе. Ёсць “Крыніца” ў Саламяэ, дзейнічае не так даўно. А таксама

➲

## ЗІНАІДА КЛЫГА: "БЕЛАРУСАЎ У ЭСТОНІІ ПАВАЖАЮЦЬ"

*Працяг. Пачатак на папярэдняй старонцы.*

ёсць суполка ў Маарду, побач з Талінам — "Ялінка", ёсць "Лёс" у Таліне, цэнтр Артура Цурбакова, суполка ў Пярну з назвай "Лад", ёсць таксама маладыя ўцекачы...

**Падводзячы вынікі за чвэрць стагоддзя**

**Н. Г.:** 25 гадоў — значны тэрмін. Што ў дзейнасці згуртавання за гэты час Вам падаецца найбольш важным? Якія ініцыятывы, якія мерапрыемствы найбольш запомніліся?

**З. К.:** Адно, напэўна, самае паказальнае. У Эстоніі ёсць толькі адзіны помнік беларускаму дзеячу — гэта помнік Янку Скрыгану. І гэты помнік уКівілі зрабілі мы. Мы падалі ідэю і яе рэалізавалі недзе ў 1998 г. Мы лічым, што гэта было вельмі важна. Знайшлі сродкі праз міністэрствы культуры Эстоніі і Беларусі, і беларускі бок шукаў мастака. Гэты праект быў галоўны, напэўна.

Важна і тое, што эстонскія беларусы, і не толькі беларусы — каго яны раней ведалі: "Песняроў", "Верасы", Еўдакімава! Тэатр ніхто не ведаў, толькі галасы. А дзякуючы нам наш рэгіён шмат каго пабачыў. Тут былі і студэнты ўніверсітэта культуры, і танцавальныя калектывы, і Галіна Дзягілева была, і Таццяна Мархель, і Уладзімір Пузыня быў, і навукоўцы, і шмат каго яшчэ мы маглі запрашаць і запрашалі. І іх чулі і бачылі нашыя беларусы, якія тут выхоўваліся толькі на рускай культуры. Гэтая асветніцкая праца, яна надзвычай важная. І яна скіраваная на ўсіх. Не толькі на саміх беларусаў, але і на эстонцаў. Мы нікога ад сябе не адштурхоўваем, самі робім гэтую працу, да нас далучаюцца нашыя родныя, знаёмыя, беларусы, якія ведаюць нас, а праз іх і астатнія. На нашыя імпрэзы шмат прыходзіць людзей іншых нацыянальнасцяў.

**Н. Г.:** Ці можна сказаць, што ўспрыманне беларусаў у эстонскім грамадстве за гэты час змянілася?

**З. К.:** Канечне. Беларусаў цяпер успрымаюць на вельмі высокім узроўні і паважаюць. Менавіта за тое, што мы робім тут, паказваем, што мы ёсць.

На жаль, мы, тутэйшыя беларусы, мала цікавыя самой Беларусі, і гэта дрэнна. Мне ад Беларусі сёння нічога не трэба. Я ніколі не буду там жыць, бо тут магілкі маіх бацькоў, тут дзеці, усё жыццё… Але мне падабаецца адчуваць сябе беларускай, бо ў мяне карані беларускія, мая бабуля Сафія Апанасаўна мела дзявочае прозвішча Сапега. Можа, яна ніякага дачынення не мела да таго магнацкага роду, не буду на тое пасягаць, але славутасць імя сама па сабе нешта дае. І тое, што мы тут робім, людзей збіраем – яно таксама нешта дае для тых, хто тут жыве. І праца тут павінна быць неяк адзначана. Прыкладам, тое што зрабілі палякі з гэтай "картай паляка" — гэта сведчанне зацікаўленасці ў сваіх людзях, якія жывуць не на радзіме. Жыццё тут не было нашым выбарам, але гэта наш лёс. Было б добра, каб сама Беларусь больш была зацікаўленая ў нашай працы і ў супрацоўніцтве. Каб Радзіма паважала той унёсак, які мы робім на ўзроўні народнай дыпламатыі на карысць краіны свайго паходжання. Па ўсім свеце раскіданыя дзеці і нашчадкі Беларусі, але яны застаюцца беларусамі. Мы — застаемся беларусамі!

*Гутарыла Наталля Гардзіенка*

*Цалкам інтэрв'ю чытайце на сайце zbsb.org*

## УПЕРШЫНЮ Ў ГІСТОРЫІ КАСЦЁЛА Ў ВІЛЬНІ ВЕЛІКОДНЫ ТРЫДУУМ ПРАЙШОЎ НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

17 красавіка ў Вялікі Чацвер у Вільні ў касцёле св. Барталамея адбылася св. Імша на беларускай мове. Імшу цэлебраваў кс. Даніла Сваяк.

Гэты дзень знакавы яшчэ і тым, што ўпершыню за ўсю гісторыю існавання Касцёла ў Вільні Велікодны Трыдуум распачаўся на беларускай мове, на якой і будзе служыцца. Гэта стала магчыма таму, што ў гэты дзень у Вільню прывезлі беларускі Імшал з той самай Друі, якая ў 20-х гг. мінулага стагоддзя была сэрцам адраджэння Беларускага Каталіцкага Касцёла. Па ім і служылася св. Імша. Наяўнасць Імшалу дае магчымасць праводзіць паўнавартаснае літургічнае служэнне на беларускай мове.

Нагадваем, што беларускія набажэнствы ў Вільні сталі рэгулярнымі і адбываюцца кожны дзень. У суботу Святочнае набажэнства на Вялікдзень распачнецца а 21.00. У нядзелю – а 7.00 раніцы.

Запрашаем усіх далучацца да набажэнстваў. Толькі разам адродзім Беларускі Каталіцкі Касцёл у Вільні, які тут мае глыбокія карані. Дадатковая інфармацыя па тэлефоне +370 6464 2403 (а. Даніла).

*tavarystva.lt*

## ВЫДАВЕЦТВА "КНІГАЗБОР" ПАДРЫХТАВАЛА ДА ДРУКУ КНІГУ АЙЦА АЛЯКСАНДРА НАДСАНА



Мінскае прыватнае выдавецтва "Кнігазбор" рыхтуе ўнікальнае выданне. Гэта будзе кніга беларускага грэка-каталіцкага святара, апостальскага візітатара для беларусаў-каталікоў у замежжы айца Аляксандра Надсана.

Праца над кнігай падыходзіць да завяршэння, кажа дырэктар выдавецтва Генадзь Вінярскі: "Кніга будзе грунтоўная — на 608 старонак. Большую частку кнігі складаюць яго пераклады і духоўныя пісанні, пераклады з грэцкай і старажытнагабрэйскай моваў.

Таму тэхнічна было вельмі складана рыхтаваць кнігу да друку. Тым больш, калі дадаць, што Аляксандр Надсан пісаў сваім правапісам, таму мы яго асучасніваем. Але адметнасці стылю і мовы імкнемся захаваць".

Айцец Аляксандр Надсан, апостальскі візітатар для беларусаў-каталікоў замежжа, жыве ў Лондане, ён пераклаў немалую частку велізарнага корпуса тэкстаў літургічнай традыцыі Усходняга Хрысціянства, сам склаў службы некаторым беларускім святым і на вялікія беларускія святы.

*Васіль Кроква,*
*"Беларускае Радыё Рацыя"*

## АБВЕСТКА

Шаноўныя чытачы! У папярэднім нумары бюлетэня была заўважаная памылка.

На старонцы 6 у 3-й калонцы, дзе гаворыцца аб святкаванні Дня Волі ў Бельгіі, безумоўна, гаворыцца пра кампазітара Міколу Равенскага. Памылкова там было ўжытае імя Міхаіл.

Прыносім прабачэнне!

# ВЯСНОВЫ "КЛІЧ" БЕЛАРУСАЎ МАЛДОВЫ

На сучасным этапе інфраструктура беларускай дыяспары ў Рэспубліцы Малдова прадстаўлена 8-ю грамадскімі арганізацыямі. Толькі адна з іх – "Беларуская грамада ў Рэспубліцы Малдова" (г. Кішынёў) – носіць статус рэспубліканскага грамадскага аб'яднання беларускай дыяспары Рэспублікі Малдова.

30 сакавіка 2014 года ў Бюро міжэтнічных адносін Рэспублікі Малдова (г. Кішынёў) адбылася ўстаноўчая Канферэнцыя грамадскага аб'яднання "Беларускі культурны рух Рэспублікі Малдова "Кліч" (БКРРМ "Кліч"). Ініцыятарам ідэі і лідарам ініцыятыўнай групы па стварэнні гэтага грамадскага аб'яднання стала ўраджэнка г. Мінска Мазур Ганна Леанідаўна – культуролаг, выпускніца Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, фотамастачка і маці траіх сыноў.

У Канферэнцыі разам з ініцыятыўнай групай беларускай дыяспары таксама ўзялі ўдзел Часовы Паверааны ў справах Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Малдова Салаўёў Аляксандр Аляксандравіч, Старшыня Беларускай грамады ў Рэспубліцы Малдова Статкевіч Юрый Антонавіч, Старшыня Асацыяцыі беларусаў муніцыпія Кішынёў "Беларусь" Зянькові Генадзь Аляксандравіч, вядомы беларускі мастак Ігнаценка Вячаслаў Міхайлавіч, народная артыстка Рэспублікі Малдова і сапраўдны сябра беларускай дыяспары ў Малдове Іvануш Маргарэта Васільеўна, а таксама іншыя прадстаўнікі з розных сацыяльных сфер грамадскага жыцця Малдовы.

За круглым сталом адбылося абмеркаванне тэмы сучаснага стану і перспектывы развіцця беларускай дыяспары ў Рэспубліцы Малдова. Пасля адбылася прэзентацыя канцэпцыі БКРРМ "Кліч".

Асаблівай цеплыні і хатняга камфорту Канферэнцыі дадала прысутнасць вялікай колькасці дзяцей і моладзі. Для іх арганізатарамі быў прадугледжаны конкурс з беларускай этнакультурнай тэматыкай "Вясновы Кліч".

Па сканчэнні афіцыйнай часткі Канферэнцыі, так бы мовіць, беларускай вішанькай на торце стаў беларускамоўны інтэрактыўны спектакль з аналагічнай назвай "Вясновы Кліч" (паводле беларускага абраду "Гуканне вясны"). Ён быў падрыхтаваны дзецьмі і моладдзю беларускага, малдаўскага, рускага, украінскага і румынскага паходжання. Натуральна, яго апафеозам, згодна з законам жанру, стала пазбаўленне ад бога зімы-Зюзі і яго сястрыцы-Завірухі і доўгачаканае з'яўленне прыгажуні Лялі – багіні вясны, якое магчымае, як сцвярджае старажытная беларуская міфалогія, толькі дзякуючы сумесным намаганням гукальшчыкаў і найдасканалейшай трэлі жаўрука – спрадвечна першаму вясноваму клічу!

На цяперашнім жыццёвым этапе ў этнакультурнай прасторы Рэспублікі Малдова беларускай дыяспары сам час прадыктаваў неабходнасць з'яўлення новых фарматаў яе супольнасці. Толькі самі беларусы, што жывуць на малдаўскай зямлі, і іх бясконцае жаданне заставацца самімі сабой змогуць захаваць, умацаваць, развіць, памножыць і самім перадаць на чужой зямлі ўсё тое, што нам у сваю чаргу перадалі нашыя продкі, нашая родная каханая беларуская маці-зямля!

*Паводле інфармацыі ініцыятыўнай групы БКДРМ "Кліч"*

# ЛЯЦІЦЬ ПРАЗ МЕЖЫ БУСЕЛ



У Новасібірску адбыўся традыцыйны 8-ы фестываль дзіцячай творчасці, які штогод праводзіць Новасібірскі цэнтр беларускай культуры. "Ад Палесся да Сібіры нясіце, буслы, вясну" – свята з такой паэтычнай назвай сабрала гэтым разам больш за 350 удзельнікаў. З'ехаліся юныя таленты не толькі з раёнаў і гарадоў нашай вобласці, але і з суседняга Томска і нават казахстанскага Паўладара.

Фестываль віталі Рэспубліканскі цэнтр нацыянальных культур Беларусі, Міністэрства культуры Новасібірскай вобласці, а таксама ўдзельнікі Сібірскага акруговага семінара "Дружба народаў – адзінства Расіі", які праходзіў у Новасібірску. Юныя таленты выяўлялі сябе ў розных намінацыях: вакалу і танца, сола і інструментальнага выканальніцтва. Узрост артыстаў – ад зусім "дзіцячага" ансамбля "Івалён" і 6-гадовай дэбютанткі Сонечкі Дулінай, якія заваявалі прызавыя месцы, да моладзевага ансамбля "Надзея" з Паўладара. Госці і сталі ўладальнікамі гран-пры фестывалю. Дэлегацыя з Рэспублікі Казахстан была прадстаўленая моладзевай вакальнай групай "Надзея" і ансамблем дзяўчат "Світанак".

Непасрэднасць, эмацыянальнае жаданне захоўваць і адраджаць самабытную культуру беларускага народа далёка за межамі гістарычнай Радзімы натхнялі на поспех канкурсантаў. А колькі разнастайных нацыянальных касцюмаў, якое багацце народных арнаментаў, змацаваных вялікім жаданнем служыць абярэгам для ўсіх народаў, якія жадаюць міру і дабра на зямлі. Беларусы з Казахстана разыгралі абрадавую карцінку "Гуканне вясны", у кошыках з ручнікамі вынеслі піражкі-"жаўранкі" і пачаставалі ўсіх прысутных у зале, а затым выканалі песню "Чаму ж мне не пець" – адну з любімых Ларысы Александроўскай – першай спявачкі Беларусі, чый 110-гадовы юбілей будзе адзначацца сёлета.

А колькі радасці і яркіх эмоцый перажылі ўдзельнікі конкурсу на цырымоніі ўзнагароджання! Аб'ектыўнасць журы, выдатныя кубкі, маляўнічыя дыпломы – і гран-пры фестывалю ў нашай моладзевай групы "Надзея".

Шчаслівыя, мы радаваліся не толькі сваім поспехам, але і таленавітым выступам іншых.

Вялікі дзякуй фестывалю, журы, Міністэрству культуры НСО, Новасібірскаму цэнтру беларускай культуры і яго дырэктару Ніне Кабанавай за выдатную магчымасць быць разам на свяце любові да сваёй Радзімы. Быць і жыць вечна Беларусі, якая сёлета адзначае 70-годдзе вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Паклонімся памяці тых, хто яе вызваляў, і хай бусел прыносіць па вясне добрыя весткі, першыя пералескі і звонкія песні, каханне і беларускую гасціннасць ды дабрабыт.

*Прэс-служба Новасібірскага цэнтра беларускай культуры*

## У НЬЮ-ЁРКУ АДБЫЎСЯ МІТЫНГ ДА 28-Й ГАДАВІНЫ АВАРЫІ НА ЧАЭС

26 красавіка 2014 года ў Нью-Ёрку адбыўся мітынг, прысвечаны 28-й гадавіне з моманту аварыі на Чарнобыльскай АЭС.




Некалькі дзясяткаў чалавек сабраліся насупраць будынка Генеральнай Асамблеі ААН у парку Ральфа Банча, каб зноў прыцягнуць увагу сусветнай грамадскасці да чарнобыльскай трагедыі, а таксама нагадаць пра тое, што проста цяпер на тэрыторыі Беларусі актыўна ідзе будаўніцтва новай атамнай электрастанцыі ў Астраўцы, якую ўжо многія ахрысцілі як "Другі Чарнобыль".

Арганізатарам акцыі выступіла беларуска-амерыканскае аб'яднанне "Пагоня". Перад прысутнымі выступілі старшыня задзіночання Віталь Зайка, кіраўнік арганізацыі "Беларусы ў выгнанні" Дзмітры Шчыгельскі, а таксама шэраг прадстаўнікоў беларускай дыяспары ў ЗША.

У сваім звароце да прысутных Віталь Зайка нагадаў пра маштабы чарнобыльскай катастрофы, а таксама пра тое, як савецкае кіраўніцтва доўгі час наўмысна хавала ад сваіх грамадзян рэальныя наступствы аварыі. Але Віталь лічыць, што цяперашнія беларускія ўлады працягваюць традыцыі савецкага часу і не даюць насельніцтву поўную інфармацыю, у выніку чаго тысячы людзей пaранейшаму жывуць на забруджаных тэрыторыях.

Дзмітры Шчыгельскі, у сваю чаргу, заявіў аб тым, што Астравецкая АЭС будуецца ў адсутнасць належнай праектнай дакументацыі і экалагічнай экспертызы. Таксама Дзмітры зрабіў акцэнт на вострым недахопе кадраў для пасяховага функцыянавання станцыі, бо многія высокакваліфікаваныя спецыялісты, у тым ліку ў сферы ядзернай энергетыкі, у цяперашні момант працуюць за межамі Беларусі.

Напрыканцы мерапрыемства адбылося шэсце, пасля якога ўдзельнікі і арганізатары абмяняліся думкамі датычна чарнобыльскай праблемы.

*Паводле прэс-службы арганізацыі "Беларусы ў выгнанні"*

## ВЫЙШЛІ НОВЫЯ "ЗАПІСЫ БІНІМ", ПРЫСВЕЧАНЫЯ БЕЛАРУСКІМ КАЛЕКЦЫЯМ НА ЗАХАДЗЕ

Чарговы выпуск альманаха "Запісы БІНіМ", які выдае Беларускі інстытут навукі і мастацтва з Нью-Ёрка, прысвечаны калекцыям беларускіх артэфактаў, якія захоўваюцца за мяжой. Дарэчы, частку гэтых калекцый нядаўна передалі ў Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва, які знаходзіцца ў Мінску. Матэрыялы, якія туды трапілі, таксама апісаныя ў новым нумары "Запісаў", – кажа галоўная рэдактарка альманаха Наталля Гардзіенка: "Асноўная тэма нумару – гэта ўласна беларускія калекцыі на Захадзе. Прычым апісаныя яны не толькі ў аналітычным плане. У дадатку да гэтага нумара на дыску зроблена спецыяльная мультымедыйная праграма, дзякуючы якой можна пабачыць выявы ўсіх гэтых скарбаў, усіх гэтых артэфактаў беларускай дзейнасці на Захадзе".

У гэтым выпуску "Запісаў" сярод шматлікіх іншых матэрыялаў друкуецца дзённік Кастуся Езавітава, які ён вёў у апошнія месяцы ў Нямеччыне да арышту СМЕРШаўцамі.

*Васіль Кроква, "Беларускае Радыё Рацыя"*

## НАШЫ БЕЛАРУСЫ – З МАСКВЫ ГЛЕДЗЯЧЫ

Прэзентацыя кнігі Аляксея Каўкі "Мае беларусы" адбылася 5 красавіка ва ўтульнай зале бібліятэкі імя А.Ахматавай, што ў маскоўскім раёне Крылацкае.

Кніга напісаная пра беларусаў і для беларусаў – як іх убачыў, зразумеў і адчуў сэрцам аўтар. Аляксей Каўка – руплівы працаўнік на ніве беларушчыны, якому ў канцы 1980-х гадоў выпала гуртаваць беларускую дыяспару ў Маскве праз створанае ім разам з групай аднадумцаў маскоўскае Таварыства беларускай культуры імя Францішка Скарыны (снежань 1988 г.). Гэтым выданнем і адзначаны 25-гадовы юбілей Таварыства.

На прэзентацыі сабраліся прадстаўнікі розных пакаленняў "скарынічаў" – стваральнікі таварыства і моладзь, а таксама расійскія навукоўцы, былыя калегі А.Каўкі, ад якіх прывітальныя словы сказала пані Інэса Яжбароўская, вядомая даследчыца расійска-польскіх адносін і аўтарка кнігі пра Катынь.

Прывабіла ўдзельнікаў сустрэчы і выстава беларускіх кніг, выдадзеных маскоўскімі "скарынічамі" (творы Ф.Скарыны, Янкі Купалы, М.Улашчыка, альманах "Скарыніч" і інш.). Частка з іх пасля прэзентацыі была падаравана бібліятэцы і будзе даступная шырокаму маскоўскаму чытачу.

Кніга "Мае беларусы" працягвае традыцыі беларускага творчага жыцця ў маскоўскай і расійскай прасторы, спалучае асабістае і агульнаграмадскае ў аўтарскіх клопатах, перажываннях і здзяйсненнях на палетку беларушчыны. Прысвечаная маці – Ганне Маркаўне Атрашэўскай, кніга пачынаецца з вельмі кранальнай тэмы бацькоў і сірочага дзяцінства ("Мамін ручнік"). Уражваюць з кніжных старонак постаці родных сясцёр аўтара, блізкіх сваякоў, сяброў маладосці – людзей, працятых штодзённа зямнымі і вышэйшымі, духатворчымі памкненнямі.

Вылучаюцца ў кнізе партрэтныя замалёўкі вядомых постацяў – творцаў нацыянальнай культуры: Зоська Верас – Л.Сівіцкая, К.Буйло, М.Улашчык, Я.Брыль, Ю.Туронак, М.Гайдук, Ул.Калеснік, М.Ермаловіч, Г.Каханоўскі, Г.Кісялёў, В.Скалабан, М.Сяднёў і інш. – асабістыя ўражанні пра якіх, безумоўна, багацяць традыцыі айчыннай мемуарыстыкі.

Не меншай увагі заслугоўвае прадстаўленая ў кнізе тэма "Беларуская Масква" пра нашую культурнатворчую прысутнасць у Маскве цягам многіх стагоддзяў. На думку прысутных і выступоўцаў (І.Капчынская, Я.Шэгідзевіч, С.Магілявец, А.Улашчык, В.Чайчыц, Д.Зяньковіч), гэтая тэма вартая адмысловага выдання, з чым пагадзіўся і А.Каўка, на заканчэнне зазначыўшы, што меркаваная кніга, як і, напрыклад, ужо вядомыя грунтоўныя працы пра беларусаў Пецярбурга і беларусаў Вялікабрытаніі, стала б прыкметным сведчаннем нацыянальна-духовай сталасці нашых суродзічаў у Маскве. Прапанаваны праект узрушана падтрымалі і расійскія калегі-навукоўцы прафесар І.Яжбароўская, Т.Конышава, М.Чахлоў.

Прэзентацыя прайшла ў цёплай добразычлівай атмасферы. Госці і выступоўцы адзначылі натхняльны характар кнігі Аляксея Каўкі "Мае беларусы" і пажадалі аўтару плённай далейшай працы.

*Паводле Віктара Чайчыца*

# ВЫЙШЛІ ЎСПАМІНЫ ВАСІЛЯ СТОМЫ




У выдавецтве "Лімарыус" у серыі "Беларуская мемуарная бібліятэка" пабачылі свет успаміны "Маё мястэчка" Васіля Стомы (1911—1992).

Аўтар нарадзіўся ў Лужках былога Дзісенскага павета (сёння Шаркаўшчынскі р-н Віцебскай вобласці). Падчас Другой сусветнай працаваў у беларускай адміністрацыі, таму ўлетку 1944 г. разам з маці і сястрой выехаў на эміграцыю. Праз гады побыту ў Нямеччыне Стомы выехалі ў ЗША.

А далей — звычайны лёс эмігранта, якіх дзясяткі і нават сотні тысячаў аселі ў другой палове XX ст. на Захадзе.

Васіль Стома быў адным з заснавальнікаў аддзела Беларуска-амерыканскага задзіночання ў штаце Нью-Джэрсі, быў сябрам Рады БНР, парафіянінам царквы Жыровіцкае Божае Маці ў Нью-Брансвіку, выкладчыкам у беларускай суботняй школцы. Зарабляў на жыццё, працуючы ў шавецкай майстэрні.

У вольны ад працы час Васіль Стома пісаў пра абрады й звычаі Дзісеншчыны, складаў слоўнічак тамтэйшага дыялекту, а таксама пісаў успаміны.

Асноўны змест апошніх складае аповед пра дзяцінства і юнацтва ў Лужках, а дакладней пра само мястэчка, вуліцы, будынкі, насельніцтва за "польскім часам".

Каларытныя характары звычайных жыхароў, з гумарам пададзеныя падзеі штодзённага жыцця — усё гэта стварае выдатны вобраз заходнебеларускага мястэчка ў міжваенны час.

Прадстаўленыя Стомам Лужкі — мястэчка, дзе нарадзіўся стваральнік іўрыту Эліэзэр Бэн Ягуда. Сярод згаданых ва ўспамінах ёсць а. Язэп Германовіч, вядомы доктар Усевалад Шыран, святар Іван Кушнер, жонка Станіслава Булак-Балаховіча.

Упершыню "Маё мястэчка" публікавалася на старонках эміграцыйнага часопіса "Беларускі сьвет", што выдаваўся ў Дэтройце ў 1980-х гг. Сёлетняе выданне больш поўнае, дадаўся таксама тэкст пра абрады й звычаі Дзісеншчыны.

*Паводле "Нашай Нівы"*

## КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТ НА ТРАВЕНЬ 2014 ГОДА

5 траўня – 195 гадоў таму ў фальварку Убель (цяпер Чэрвеньскі р-н) нарадзіўся Станіслаў Манюшка, кампазітар, дырыжор, педагог, класік польскай і беларускай оперы, вакальнай лірыкі.

6 траўня – 110 гадоў таму ў вёсцы Нізок (цяпер Уздзенскі р-н) нарадзіўся Паўлюк Трус (1904-1929), паэт.

6 траўня – 80 гадоў таму ў Празе (Чэхія) памёр Мікалай Вяршынін (сапр. Верамей; 1878-1934), грамадска-палітычны дзеяч, консул Беларускай Народнай Рэспублікі ў Чэхаславакіі. Нарадзіўся ў мяст. Налібакі, цяпер Стаўбцоўскі р-н (1878 г.).

8 траўня – 15 гадоў таму, у 1999-м, у Сіднеі (Аўстралія) памёр Сымон Шаўцоў, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і Аўстраліі, пісьменнік.

13 траўня – 135 гадоў таму, у 1879-м, нарадзіўся Янка Серада (в. Задзвеі, цяпер Баранавіцкі р-н), дзеяч нацыянальнага руху, старшыня прэзідыума Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. Прапаў без вестак пасля 19 лістапада 1943 г.

14 траўня – 115 гадоў таму ў вёсцы Повязынь (цяпер Маладзечанскі р-н) нарадзіўся Тодар Куніцкі (1899-1985), лекар, адзін з заснавальнікаў Беларускага студэнцкага саюза ў Вільні і Беларускага сялянскага саюза.

15 траўня – 105 гадоў таму ў вёсцы Бойдаты (цяпер Ваўкавыскі р-н) нарадзіўся Язэп Найдзюк (1909-1984), дзеяч заходнебеларускага нацыянальнага руху, выдавец, гісторык. Аўтар кнігі "Беларусь учора і сёння".

16 траўня – 15 гадоў таму, у 1999-м, у Таронта (Канада) памёр Міхась Ганько, палітычны і грамадска-культурны дзеяч эміграцыі ў Аўстрыі і Канадзе.

17 траўня – 80 гадоў таму быў расстраляны Алесь Салагуб (1906-1934), паэт, публіцыст.

22 траўня – 10 гадоў таму, у 2004-м, у Вільні ўсталяваная памятная дошка Наталлі Арсенневай.

26 траўня – 105 гадоў таму ў Рызе (Латвія) нарадзіўся Часлаў Ханяўка (1909-1988), грамадскі дзеяч, дзеяч эміграцыі ў ЗША.

30 траўня – 15 гадоў таму, у 1999-м, адбылася трагедыя на Нямізе, у выніку якой у падземным пераходзе станцыі мінскага метрапалітэна "Няміга" загінулі 53 чалавекі, пераважна дзяўчаты і юнакі.

## У ЦЮРЫХУ ПАТРАБАВАЛІ ВЫЗВАЛЕННЯ БЕЛАРУСКІХ ПАЛІТВЯЗНЯЎ

Праваабаронцы Amnesty International і Libereco — Partnership for Human Rights правялі ў швейцарскім Цюрыху пікет у падтрымку беларускіх палітвязняў.

Яны нагадалі жыхарам і гасцям горада пра тое, што беларускі праваабаронца Алесь Бяляцкі 1000 дзён знаходзіцца за кратамі, і заклікалі мінакоў далучыцца да петыцыі адносна вызвалення Алеся ды іншых беларускіх палітзняволеных, якія цяпер утрымліваюцца ў турмах.

Швейцарскія актывісты патрабуюць ад беларускіх уладаў вызваліць усіх палітвязняў Беларусі да пачатку чэмпіянату свету па хакеі, які стартуе ў Мінску 9 траўня.

*"Радыё Свабода"*

**Беларусы ў свеце**
№4(144) красавік 2014

Інфармацыйны бюлетэнь МГА "ЗБС "Бацькаўшчына". Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.

Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.
Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – А. Башарымава
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906,
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb@tut.by

тэл./факс (+375 17) 200-70-27